# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 36 (706) 7 ВЕРАСНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


Прамысловы краявід паветаў

## ХЛЕБ ДЛЯ САКОЛКІ

Гісторыя не аказалася шчодрай для Сакольшчыны. Не абдарыла яе прамысловымі прадпрыемствамі. Прырода таксама не ўзбагаціла яе землі натуральным багаццем. Хаця... хто там яго ведае... Па-рознаму на Сакольшчыне людзі пра гэтыя багацці сваёй зямлі гавораць...

Факт аднак астаецца фактам, што ў цэлым Сакольскім павеце ёсць толькі адзін горад. Гэта дзесяцітысячная Саколка. Чатыры пятых насельніцтва жыве ў вёсках. Залічваецца тады Сакольшчына да тых паветаў нашай краіны, дзе самы нізкі паказальнік той часткі людзей, якая сваё ўтрыманне абасноўвае на працы ў дзяржаўных і спулдзельчых прадпрыемствах. У Сакольскім павеце з кожнай тысячы чалавек у прамысловасці працуе толькі 13—14. А вось у Лапскім павеце — амаль аж 70.

Нічога тады дзіўнага, што кожнае прамысловае прадпрыемства на Сакольшчыне і ў самой Саколцы мае асабліва вялікае значэнне. Яно дае хлеб для ўсё нарастаючай колькасці насельніцтва ў вёсках павета і ў Саколцы. Для прыкладу, насельніцтва горада Саколка на працягу апошняга дваццацігоддзя амаль падвоілася.

Адным з буйнейшых прадпрыемстваў, якое дае хлеб для Саколкі, з'яўляецца **Сакольскае прадпрыемства мясцовай прамысловасці.** Дае яно працу амаль тром сотням жыхароў Саколкі і яе наваколля.

Назва гэтага прадпрыемства не адлюстроўвае яго сутнасці. Чым тады яно займаецца?

Дырэктар па тэхнічных справах Веслаў Дашута інфармуе:

— Наша Сакольскае прадпрыемства мясцовай прамысловасці мае дзве асноўныя галіны прадукцыі: металаапрацоўчую і тэкстыльную. Вартасць нашай гадавой прадукцыі ў мінулым годзе — 33 мільёны злотых. У гэтым годзе ўзрасла яна да 40 мільёнаў злотых, а ў наступным годзе ўсё тое, што маем намер мы ў сябе выпусціць, складзе суму 44 мільёны злотых.

Гэтыя лікі азначаюць, што прадпрыемства пастаянна разрастаецца, што пастаянна прымае новых людзей на працу, што расце прадукцыйнасць рабочых.

А вось дзесяць год таму назад мясцовыя сакольскія і ваяводскія ўлады ўсур'ёз задумоўваліся, ці не ліквідаваць гэтага прадпрыемства. Была гэта толь-


Саколка. Фота Цаф — Сянько

Працяг на стар. 4


Фігура старога, які трымае на руках пакаранага смерцю хлопчыка.




(КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА)

Высокія коміны над пустыннай палянай. Вакол маўклівы лес — нямая сведка людскога жыцця. Чвэрць стагоддзя назад тут з комінаў хатніх ачагоў паднімаўся шызы дымок і слаўся над лясными далямі.

Сёння гэтыя коміны — толькі сімвал. На іх зараз замацаваны званы, якія сваім трывожным стогнам напамінаюць жывым аб страшнай чалавечай трагедыі, дзе насільна абарвалася жыццё дзесяткаў мірных людзей. Чорная мармуровая пліта паведамляе: «Ад рук забойцаў загінулі 152 чалавекі, у тым ліку 76 дзяцей».

Гэта здарылася 22 сакавіка 1943 года. У гэты дзень на беларускую вёску Хатынь, што распалажана ў палусотні кіламетраў на поўнач ад Мінска, наляцелі нямецка-фашысцкія варвары. Караці абстралялі вёску з кулямётаў і аўтаматаў, а потым... потым усіх жыхароў старых і малых сагналі ў свіран і... падпалілі. Задыхаючыся ад едкага дыму, закрычалі дзеці. Ратуючыся ад агню дарослыя выламалі дзверы. А калі дзверы былі ўзламаны, людзі, што засталіся ў жывых, кінуліся з агню на двор. Але тут іх сустрэлі карацелі кулямётным і аўтаматным агнём.

Неўзабаве ўсё было закончана. У полымі дагаралі трупы, азвярэлыя карнікі радаваліся. Марадзёры кінуліся рабаваць маёмасць забітых і спаленых: забіралі быдла, збожжа, хатнія рэчы. Калі ўсё было ачышчана, акупанты дашчэнту спалілі вёску. Над Хатыню надоўга ўстанавілася мёртвая цішыня. І толькі ў непагадзь трывожна гулі коміны.

Яны і сёння гучаць звонам. Яны прыпамінаюць, што ў агні пакутніцкай смерцю ад рук фашысцкіх забойцаў загінулі Аляксандр Навіцкі, яго жонка і сямёра дзяцей. Там згарэлі жывымі Анна і Язэп Бараноўскія і іх васьмёра дзяцей. Там... можна было пералічваць яшчэ доўга...

Аднак па волі лёсу ў жывых суджана было застацца толькі аднаму з смяротнікаў хатынцаў — вясковаму кавалю Язэпу Камінскаму.

Разам з іншымі сваімі аднавяскоўцамі Язэп таксама кінуўся з гарэўшага свірана ў двор. Спераду бег яго сын Адам. На двары яны абодва ўпалі прашытыя аўтаматнымі чэргамі. Сын упаў у яму. Яшчэ жывы ён клікаў на дапамогу бацьку і маці. Але ў агні ўжо згарэлі яго маці, брат і дзве сястрычкі. Сам жа Язэп Камінскі, будучы цяжка раненым, абліваючыся крывёю і курчачыся ад болю, таксама скаціўся ў яму, дзе паміраў яго родны сын. Адам памёр на руках у бацькі. Стары ж выжыў. Ён памятае імя кожнага свайго аднавяскоўца, хто згарэў у агні і хто загінуў пад кулямі. У Камінскага добрая памяць, хаця яму йдзе ўжо дзевяты дзесятак гадоў. Такое не забываецца!

Трагедыя беларускай вёскі Хатынь заўсёды павінна прыпамінаць людзям аб жахах вайны, аб зверствах фашызму. Вось чаму трох мінскіх архітэктараў — Юры Градоў, Валянцін Занкевіч і Леанід Левін стварылі на месцы былой вёскі Хатынь мемарыяльны ком-


Звон на сімвалічным коміне.

Працяг на стар. 4

## Станоўчыя змены

Вялікая ўвага педагогаў Бельскага павета будзе звернута на фарміраванне ідэйна-маральнай паставы.

Каб запэўніць безупыннасць і аднalітнасць педагагічнага ўздзеяння на дзяцей і моладзь, школы звернуць увагу на некалькі спраў умацоўваючых кіраўнічую і вядучую ролю ўстановы, якой з'яўляецца школа. Будзе гэта: 1) умацаванне вядучай ролі школы ў адносінах да пунктаў асветна-выхаваўчых і апякунчых, дзіцячых і маладзёжных арганізацый; 2) умацаванне педагагічнага ўплыву на бацькоў праз такія формы як педагагічныя ўніверсітэты для бацькоў і інш.; 3) утрымоўванне цесных кантактаў з прадпрыемствамі і ўстановамі, якія распараджаюцца сродкамі масавай інфармацыі.

Школьніцтва, асабліва пачатковае, Бельскага павета пачало навучальны год з паніжанай колькасцю аддзелаў, хаця колькасць школ не паменшылася. Вынікае гэта з таго, што абніжана арганізацыйны ўзровень 8-класнай школы ў Залускіх Каронных на 4-класную, у Грыгароўцах, у Локніцы і Гадзебах 4-класныя школы з 3-х аддзелаў на 2. Планаваная ліквідацыя 4-класных школ у Мокрым, Кернове і Спічках не адбылася з погляду на цяжкія памяшкальныя ўмовы 8-класных школ у Парцаве і Дубяжыне. Не ліквідавана таксама чатырохкласнай школы ў Праневічах з прычыны далёкай адлегласці да зборнай школы. Абніжана арганізацыйны ўзровень школ з 5 настаўнікамі на 4 у Паўлах і Піліках. Пачатковая школа ў Зубаве зараз мае шэсць настаўнікаў.

З кожным годам паляпшаюцца памяшкальныя ўмовы пачатковых школ Бельшчыны. У гэтым годзе вучні карыстаюцца 431 школьным памяшканнем, з чаго толькі 81 — гэта нанятыя. У навучальным 1969/70 годзе арганізуецца пры пачатковых школах 41 кабінет і 116 прадметных кабінетаў.

Характэрным для Бельшчыны ёсць і кадравыя змены сярод педагагічнай кадры. У гэтым годзе пасаду кіраўніка школы атрымала аж 11 новых настаўнікаў. На 71 васьмікласную школу 65 настаўнікаў мае вышэйшую або няпоўную вышэйшую адукацыю, а 6 асоб завочна вучыцца ў СН і вышэйшых школах.

Карысныя змены назіраюцца таксама і сярод настаўніцкай кадры. Па-першае, гэта павелічэнне колькасці настаўнікаў з 539 у мінулым годзе на 564 у гэтым, і па-другое, значна лепшая іх якасць з погляду на кваліфікацыі — у 1968/69 з дадатковымі кваліфікацыямі было 56% настаўнікаў, а ў гэтым годзе з дадатковымі кваліфікацыямі маецца 63,3% настаўнікаў. Варта заўважыць, што калі ўтрымаецца такі стан прыбывання настаўнікаў з дадатковымі кваліфікацыямі, а пакуль што нішто не паказвае што будзе горш, за чатыры гады Бельскі павет будзе абяспечаны больш чым у 90% настаўнікамі з дадатковымі кваліфікацыямі.

Станоўчай з'явай гэтага навучальнага года з'яўляецца і той факт, што амаль ва ўсіх васьмікласных школах прынята настаўнікаў на надлічбовыя гадзіны. Гэтая сітуацыя, згодна са спадзяваннямі ўлад, будзе мець станоўчы ўплыў на дыдактычна-выхаваўчы ўзровень школ таму, што ў часе мацярынскіх водпускаў настаўніц, вучэбных водпускаў і іншых непрадбачаных звальненняў кіраўнікі школ самі змогуць развязаць справу замяшчэнняў.

Карыснай з'явай з'яўляецца і той факт, што асветныя ўлады Бельскага павета перамаглі справу адпаведнага размяшчэння, у паасобных васьмікласных школах, настаўнікаў спецыялістаў такіх асноўных прадметаў як: польская мова, матэматыка з фізікай і практычна-тэхнічныя заняткі. Уласціва кажучы, толькі дзве васьмікласныя школы ў павеце, Стацэвічы і Галады, міма, што тут па 5 настаўнікаў, не маюць адпаведна розных спецыялістаў.

Усё паказвае, што 1969/70 год у пачатковым школьніцтве будзе больш плённым чымсьці мінулы. А вынікі гэтага павінны знайсціся ў лепшых паказчыках у канцы года.

А. Лабановіч

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ГАДАВІНА СЛАВАЦКАГА ПАЎСТАННЯ

28 жніўня пачаліся ў Славакіі ўрачыстасці звязаныя з 25 гадавінай славацкага нацыянальнага паўстання. З гэтай нагоды адбылося ўрачыстае пасяджэнне ЦК Камуністычнай партыі Славакіі, Славацкага нацыянальнага савета, урада СРС і Галоўнага праўлення Саюза антыфашысцкіх барацьбітоў. На пасяджэнне прыбылі члены найвышэйшых улад ЧССР: прэзідэнт Л. Свобада, І сакратар ЦК КПЧ Г. Гусак, прэм'ер О. Чэрнік, старшыня Нацыянальнага сходу А. Дубчэк і прэм'ер урада Сацыялістычнай Рэспублікі Славакіі П. Цалётка.

Ва ўрачыстым сходзе прынялі таксама ўдзел замежныя дэлегацыі: з Савецкага Саюза з І намеснікам старшыні Савета Міністраў К. Мазуравым, Польшчы, ГДР, Венгрыі і Балгарыі. Польскую дэлегацыю ўзначальваў член Палітбюро ЦК, І сакратар ВК ПАРП у Жэшаве Ул. Кручэк, а ў склад дэлегацыі ўвайшлі: пасол у ЧССР В. Янюрэк і віцэ-міністр асветы З. Захайкевіч.

Удзельнікі ўрачыстага схода прысвечанага 25 гадавіне славацкага паўстання прынялі змест пісьма да ўлад Савецкага Саюза. У ім, між іншым, гаворыцца: «Ніхто не зможа парушыць нашай дружбы абапіраючайся на братэрстве і сцэментаванай супольна пралітай крывёю. Калі хто-небудзь будзе прабаваць парушыць гэтую святую дружбу, наш народ дасць годны адказ. Дасць таксама годны адказ тым, хто пагражае яго жыццёвым інтарэсам».

### ПАМЯЦЬ АБ 1 ВЕРАСНІ 1939

Група прагрэсіўных і мірных дзеячаў з ФРГ прыслала пасланне да Агульнапольскага камітэта міру. Гэтая група, звязана з заходнегерманскім часопісам «Штімэ дэр гэмайндэ» (прысвечаным справам царкоўнага жыцця, палітыкі, гаспадаркі і культуры), рашыла — з нагоды 30 гадавіны нападу гітлераўскай Германіі на Польшчу — даць гэтым шляхам выраз свайму становішчу ў справах звязаных з адказнасцю Германіі за злачынствы апошняй вайны і за палітыку ўрада ФРГ.

### ФІНАНСАВЫ ЎКОЛ ФРАНЦЫІ

Толькі некаторыя эксперты Францыі ведалі аб размовах прадстаўнікоў Міжнароднага валютнага фонда з прадстаўнікамі французскага ўрада на тэму, якім чынам прызнаць Францыі пазыку для падтрымання яе валюты. У мінулым тыдні ўрад Францыі афіцыйна паведаміў аб выніках перагавораў.

Францыя атрымала адзін мільярд долараў як кораткатэрміновай пазыкі ад ЗША, ФРГ, а таксама дадаткова 985 мільёнаў з ІМФ (Міжнароднага фінансавага фонда). Такім чынам мае яна амаль 2 мільярды долараў у атракцыйных валютах.

Справа аднак у тым, што Францыя ўжо так задоўжылася на міжнародным фінансавым рынку, што новыя пазыкі будуць пахлынуты ў вялікай меры на... сплату папярэдніх пазык. А. К.



## БССР

### ПРАГРЭС

Выстаўка «Тэхнічны прагрэс у лёгкай прамысловасці» адкрылася ў Мінску. Шматлікія экспанаты, стэнды, дыяграмы і маляўнічыя плакаты даюць інфармацыю аб удасканаленні тэхналогіі вытворчасці, тэхнічным пераўзбраенні, арганізацыі працы.

Асобны раздзел прысвечаны поспехам, дасягнутым у развіцці лёгкай індустрыі ў Беларусі.

### ГАНДЛЮ

Адбылося пасяджэнне пастаяннай Камісіі па гандлю і грамадскаму харчаванню Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Разгледжана стан работы гандлюючых арганізацыяў па падрыхтоўцы, захоўванню і рэалізацыі бульбы, гародніны, фруктаў і дзікарослай прадукцыі ў рэспубліцы.

Планы нарыхтовак гародніны і садавіны не выконваюцца, сёлета таксама. Адной з прычын таго з'яўляецца слабая разбудова сховішчаў і складаў.

### ЗАСЛУЖАНАГА

За заслугі ў развіцці беларускага кінамастацтва Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі наступным асобам: Аляксандру Лужаніну — Каратаю з рэдкалегіі «Беларусьфільма», Рыгору Масальскаму, кінааператару творчага аб'яднання «Летапіс», і Язэпу Шульману, рэжысёру кінастудыі «Беларусьфільм».

Апрача таго ганаровымі граматамі і граматамі Вярхоўнага Савета Беларусі ўзнагароджана вялікую групу работнікаў кінематаграфіі м. ін. Мінну Гнядко, кіраўніка Гродзенскай канторы кінапракату.

### ЧВЭРЦЬ

Мінула чвэрць стагоддзя з таго часу, калі ўрад Беларусі прыняў рашэнне аб стварэнні літаратурнага музея Янкі Купалы. Гэтым самым быў пакладзен пачатак збіранню матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці нашага вялікага паэта. Вялікую работу па арганізацыі і збіранню экспазіцыі правяла ў тыя цяжкія гады жонка паэта, Уладзіслава Луцэвіч. У музеі налічваецца каля сямі тысяч экспанатаў.

У сувязі з пяцідзесяцігоддзем Кастрычніцкай рэвалюцыі музей узнагароджаны дыпломам Міністэрства культуры Саюза ССР.

### БУДАЎНІКОЎ

У Магілёве адбыўся першы злёт маладых будаўнікоў вобласці. Вялікай групе маладых на злёце былі ўручаны ганаровыя граматы Міністэрства прамысловага будаўніцтва Беларускай ССР і беларускай цэнтралі прафсаюзаў.

### МАЖЭЙКІ

«Звязда» апублікавала артыкул А. Мажэйкі, супрацоўніка Акадэміі навук БССР, — «Творчыя сувязі літаратуразнаўцаў».

«Беларуская і польская літаратуры маюць што сказаць адна адной, — піша А. Мажэйка, — таму і ў нас з'яўляецца ўсё болей перакладаў, артыкулаў і кніжак, прысвечаных літаратуры Польшчы»... (ся)



## ПОЛЬШЧА

### 30 ГАДАВІНА

У сувязі з 30 гадавінай агрэсіі фашысцкай Германіі на Польшчу, ва ўсёй краіне адбыліся ўрачыстасці. З гэтай нагоды на запрашэнне Старшыні Рады Дзяржавы Мар'яна Спыхальскага прыбыў у Польшчу з візітам дружбы прэзідэнт Чэхаславакіі Людвік Свобада.

### ЦУКРАВАРНІ

Праектаванне і будова на экспарт камплектных аб'ектаў цукровай прамысловасці сталася польскай спецыяльнасцю. У суме польскія спецыялісты запраектавалі і пабудавалі за мяжою 36 вялікіх цукраварняў. Найбольш, бо 16 такіх заводаў Польшча пабудавала ў СССР. Апрача таго польскія цукраварні працуюць у Кітаі, Цэйлоне, В'етнаме, Іране, Грэцыі, Гане, Марока. Амаль усё абсталяванне цукраварняў складаецца з элементаў прадукаваных у краіне. Польшча вядзе таксама абучэнне тэхнічнага персаналу і рабочых калектываў, якія пачынаюць працу ў будаваных намі цукраварнях.

### У ШКОЛАХ

У новым навучальным годзе ва ўсіх тыпах школ і дзіцячых садах знайшлося каля 8.300.000 дзяцей і моладзі. З гэтага ліку ў пачатковых школах знайшлося звыш 5.500.000 асоб, у агульнаадукацыйных ліцэях — каля 327.000, у прафесіянальных школах — 1.700.000. У суме лік вучняў ва ўсялякага тыпу школах пабольшыўся на каля 200 тысяч, але лік вучняў у першых класах пачатковых школ зменшыўся на каля 30 тысяч асоб. З'яўляецца гэта адзнакай набліжаючагася дэмаграфічнага ніжу.

### НІКОЛІ БОЛЬШ!

На Шлёнску адбылася сустрэча моладзі з СССР, Чэхаславакіі і ГДР пад лозунгам «Ніколі больш вайны!» Маладзёжныя групы з гэтых краін прынялі ўдзел у святкаваннях 50 гадавіны шлёнскіх паўстанцаў і 30 гадавіны выбуху ІІ сусветнай вайны, а таксама правялі шмат сустрэч з моладдзю Шлёнска.

### СОПАТ 69

На міжнародным фестывалі песні ў Сопаце галоўную ўзнагароду «Бурштынавага салаўя» атрымаў савецкі спявак Муслім Магамаеў, а ўзнагароду ў конкурсе ў «Міжнародным дні» — швайцар Гэнры Дэз. У «Дні пласцінак» І узнагароду атрымаў іспанец Мішэль за песню «Грэнада».

### 30 МІЛЬЯРДАЎ

Вартасць вырабаў штодзённага карыстання, у які забяспечыць рынак наша машыновая прамысловасць, перакрочыць у гэтым годзе ўпершыню 30 мільярдаў злотых. Паяўляцца новыя мадэлі радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў і 4-сцежкавы магнітафон.

### САМАХОДЫ

У бліжэйшай пяцігодцы прадукцыя самаходаў у Польшчы асягне звыш мільён штук, з чаго каля 300 тысяч штук прызначаных будзе на экспарт. Вартасць гэтага экспарту асягне суму 3,7 мільярдаў дэвізных злотых. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДАЖЫНКІ Ў БЕЛАСТОКУ

31 жніўня адбыліся ў Беластоку ваяводскія дажынкі пад лозунгам **«Залатыя плёны на сярэбранае свята ПНР».**

Сталіца ваяводства, Беласток, гасціла 15 тысяч прадстаўнікоў беластоцкай вёскі. Гаспадар дажынак член ЦК ПАРП, І сакратар ВК партыі **А. Лашэвіч** прыняў ад старасціны і старасты дажынак традыцыйны бохан хлеба.

З абшырнай прамоваю выступіў гаспадар дажынак А. Лашэвіч. Склаў ён шчырую падзяку за ахвярнасць і працу гаспадарам Беласточчыны, працаўнікам ПГР, членам спулдзельняў прадукцыйных сельскагаспадарчай службе за дасягненні і спраўнае правядзенне сёлеташняга жніва. Асабліва гарачыя словы падзякі накіраваў А. Лашэвіч у адрас змагароў за тэхнічны прагрэс і ўсіх тых, хто высокімі прадукцыйнымі вынікамі давёў, што зямля, нават у неспрыяючых умовах можа і павінна даваць больш.

«Прыкладам гэтага, — гаварыў А. Лашэвіч, — з'яўляюцца сёлеташнія плёны. Міма дакучлівай і працяглай пасухі плёны чатырох асноўных збожжавых культур, у параўнанні з мінулым гаспадарчым годам, вышэйшыя. Нядрэнна наогул павінны выпасці плёны буракоў і бульбы, а таксама іншых раслін, хаця вынікі пасухі тут больш відавочныя і не дазволяць яны мець такіх ураджаяў, на якія мы лічым».

Гаворачы аб чакаючых сельскую гаспадарку заданнях, І сакратар ВК сказаў м. інш.: «Мінеральныя ўгнаенні і правільнае іх прымянянне — гэта найважнейшы фактар, а адначасова і ключ да пабольшвання ўраджайнасці плёнаў не толькі збожжа, але і наогул расліннай прадукцыі, у тым павелічэнне ўраджайнасці трывалых зялёных угоддзяў».

У заключэнні сваёй прамовы гаспадар дажынак сказаў: «Жадаю Вам усім, дарагія таварышы і грамадзяне, як найлепшых поспехаў у рэалізацыі гаспадарчых заданняў гэтага года, усё больш заможнага жыцця, добрага здароўя, поспехаў у штодзённым жыцці і працы».

### 374 АСОБЫ ЗАГІНУЛА

У 1964—1968 гадах г.зн. на працягу пяці год, на дарогах Беластоцкага заяводства здарылася аж 2.539 дарожных выпадкаў. У гэтых выпадках панесла смерць 374 асобы, а 2.533 былі раненымі. Страты ў сувязі са знішчэннем толькі самаходавых прылад асягнулі больш 11 мільёнаў 600 тысяч зл.

На працягу ўспомненых пяці год на дарогах панесла смерць 27 дзяцей, а 169 дзяцей было раненымі. Прычынай выпадкаў было тут найчасцей пакіданне дзяцей без апекі, а таксама абыякавасць дарослых да гульняў дзяцей на дарогах.

Гэта яшчэ адзін прыклад, які павінен звярнуць увагу ўсіх. А. К.




**Niedziela 7. IX.**

9.50 Program dnia; 9.55 Centralne Dożynki — transmisja ze Stadionu X-lecia w Warszawie; 13.00 Dziennik; 13.15 „Bawcie się z nami"; 13.55 Teatrzyk dla Przedszkolaków: A. Chodorowska — „Kasztanowy dziadek"; 14.45 PKF; 15.00 „Kolorowy jarmark" (Berlin); 15.50 Losowanie Totolotka; 16.00 Transmisja z eliminacji do piłkarskich Mistrzostw Świata — mecz Polska — Holandia (Chorzów); 18.00 Film rozrywkowy; 18.25 „Azoty od rana do wieczora" — rep. film. („Ludzie i zdarzenia"); 18.50 „Ojciec i syn" — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Kronika Centralnej Spartakiady Młodzieży; 20.15 „Rozwód z miłości" — film fab. węg.; 21.45 Recital Jean Claude Pascala; 22.10 „Klub prof. Tutki" — film TVP; 22.25 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 8. IX.**

15.20 Program dnia; 15.25 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.35 Dziennik; 16.45 „Opowieści ze świata zwierząt" — film; 17.10 „Echo stadionu" — mag. sportowy; 17.30 „Na północ od 38 równoleżnika" — film koreański; 17.55 Program publicystyczny; 18.20 Festiwal Filmów Morskich (Szczecin); 18.45 „Eureka"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Przemówienie Ambasadora Koreańskiej Republiki Ludowo-Demokratycznej; 20.10 Kronika Centralnej Spartakiady Młodzieży (Wrocław, Poznań); 20.20 Festiwal Teatrów Dramatycznych: C. K. Norwid — „Kleopatra i Cezar". Adapt. i reż. — K. Braun (przeniesienie z Teatru im. J. Osterwy w Lublinie); 21.50 „Kształt Śródmieścia Warszawy"; 22.20 Dziennik.

**Wtorek 9. IX.**

9.00 Parada Wojskowa z okazji Święta Narodowego Ludowej Republiki Bułgarii (Sofia); 10.20 „Skarb kapitana Martensa" — film fab. pol.; 11.25 Przerwa; 12.00 „Wybieramy zawód"; 12.20 Przerwa; 12.45 i 15.00 Przysposobienie Rolnicze: „Żyto jako poplon"; 13.15 Przerwa; 14.55 Program dnia; 15.30 „Jennifer w Bułgarii" — film estradowy bułg.; 15.55 Transmisja z uroczystości zakończenia Centralnej Spartakiady 25-lecia (Wrocław); 17.30 Dziennik; 17.40 „Nad Moskwą, Dunajem, Morzem Czarnym"; 18.00 Telewizyjny Ekran Młodych; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Koncert z Sofii; 22.00 „Stal na wagę złota"; 22.25 Dziennik; 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka.

**Środa 10. IX.**

9.40 „Nigdy nie kłamię" — film fab. węg.; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Składanie sił"; 11.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Nowy Sejm"; 13.15 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 i 22.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.35 Dziennik; 16.45 „Opowieści ze świata zwierzat" — film; 17.10 „Magazyn ITP"; 17.20 TV Kurier Warszawski; 17.35 „Romeo i Julia" — film baletowy do muzyki P. Czajkowskiego; 18.05 Występ Estradowego Zespołu Pieśni i Tańca TV Bułgarskiej; 18.45 „Postęp" — mag.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Giełda piosenki"; 20.40 „Światowid"; 21.10 PKF; 21.20 Estrada Literacka: Z. Jarzyna — „Niobe 43"; 22.00 Dziennik.

**Czwartek 11. IX.**

8.15 Matematyka w szkole: „Iloczyn skalarny" cz. I; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Przed wybuchem I Wojny Światowej"; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII i VIII) Język polski — „Prasa"; 12.25 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 i 22.45 Politechnika TV I roku. Chemia; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.50 „Bułgarska jesień" — film; 18.20 „Nad Odrą i Bałtykiem"; 18.50 Koncert klasycznej muzyki gitarowej w wyk. studentów i absolwentów Państw. Wyższej Szkoły Muzycznej w Łodzi; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 19.55 „Przypominamy, radzimy"; 20.05 „Samotni w sojuszu" — progr. dokumentalny; 20.35 „Człowiek bez paszportu" — film fab. radz.; 22.05 „Refleksje"; 22.35 Dziennik.

**Piątek 12. IX.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Prawie wszystko o metalach"; 10.30 „Człowiek bez paszportu" — film fab. radz.; 12.05 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. II i III lic.) Przysposobienie obronne — „Powszechna samoobrona ludności"; 13.15 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka"; 17.05 Dla dzieci — film; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 TV Kurier Mazowiecki; 18.10 Nowe piosenki radzieckie; 18.30 „Susza — i co dalej"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 19.55 „Pamiątki września" — film dok. TVP; 20.35 Teatr TV: A. Tołstoj — „Błękitne miasta"; 21.45 „Lektury współczesne"; 21.55 „Stawka — nowoczesność"; 22.20 Dziennik.

**Sobota 13. IX.**

10.00 „Lotna" — film fab. pol.; 11.35 „Zaproszenie do Tbilisi" — rep. z Gruzji — kongres technologii produkcji win (Moskwa); 11.35 Przerwa; 15.50 Program dnia; 15.55 Program tygodnia; 16.15 Mistrzostwa Świata w podnoszeniu ciężarów — program informacyjny; 16.35 Dziennik; 16.45 Teatr Młodego Widza; 18.05 „Gawędy wilków morskich"; 18.20 „Prometeusz" — film węg.; 18.40 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.10 Festyn „Trybuny Robotniczej" — program estradowy; 21.10 Dziennik TV i Wiadomości sportowe; 21.30 Kino Interesujących Filmów: „Zabić drozda" — film fab. USA.




**Piątek, 5 września**

7.40 „Puszcza Białowieska". Reportaż filmowy; 8.00 Nowiny; 8.15 „Cuda przyrody"; 8.30 Program TV bułgarskiej; 14.50 Nowiny; 15.00 TV agencja „Pionieria"; 16.00 „W. Lenin". Kronika życia i działalności. Początek cyklu; 16.45 „Panorama nowin"; 17.00 Koncert zespołów amatorskich; 18.00 „Sześć pieśni o Bułgarii". Premiera radziecko-bułgarskiego filmu TV; 19.00 „Sztafeta nowin"; 20.00 Koncert artystów Bułgarii i ZSRR; 22.00 Nowiny.

**Sobota, 6 września**

7.45 Nowiny; 8.00 „Bądźcie szczęśliwi!" 8.30 „Standartyzacja i postęp"; 9.00 „Obiektyw". Klub TV; 10.00 „Białe i czarne"; 10.30 TV teatr dla dzieci; 11.40 „Zdrowie"; 12.10 „Gdzie był Lenin". Reportaż TV; 12.30 „Szkatułka muzyczna"; 12.50 Przegląd międzynarodowy; 13.10 Dla dzieci; 13.25 Film popularno-naukowy; 14.30 Spektakl TV; 16.30 Nowiny; 16.45 W eterze „Młodość"; 18.15 Koncert; 19.10 „Świat socjalizmu"; 19.40 „Nazywał się Robert". Film fabularny; 21.00 „Pieśni lecą do Moskwy". Program rozrywkowy; 22.00 Nowiny.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 129

## АБ КНІЖЦЫ САКРАТА ЯНОВІЧА

Аб кніжцы журналіста «Нівы» Сакрата Яновіча пісала шэраг часопісаў і тыднёвікаў краіны. Кніжка Яновіча пад загалоўкам «Загоны» хутка дачакалася рэцэнзій. Мне асабіста хацелася б напісаць аб гэтай кніжцы з пункту гледжання скромнага чытача «Нівы» і беларускіх кніжак.

Як вядома, чытачы мелі магчымасць знаёміцца з паэтычнымі творамі пісьменнікаў літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа», а вось і аказія пачытаць творы ў прозе. Аказія такая надарылася ў пачатку ліпеня г.г. Склаўся на гэта дэб'ют Сакрата Яновіча.

Кніжку гэту прачытаў я адразу, як толькі яна выйшла з друку. Мушу прызнацца, што прачытаў яе за два вечары і быў у захапленні: поўны ўдзячнасці Аўтару. Сакрат піша вельмі шчыра. Яго аповесці здаліся мне вельмі блізкімі. Здаецца, я сам быў




той асобай, тым героем з кніжкі. Я сам меў такую ж маладосць расколеную паміж вёскай а горадам. Таксама быў закаханы і таксама нясмелы з-за першага кахання, яго трывогі...

Чытаючы аповесці «Таня» і «Ён і іншыя» я, здаецца, адкрываў прыгажосць беларускай мовы нанава. Аўтар «Загонаў» паказаў рэдкую ўмеласць назірання, багатую гаму сродкаў мастацкіх замалёвак, цікавы ўласны свет. Добра, што Сакрат Яновіч піша творы прысвечаныя сучаснай тэматыцы, аб праблемах цяперашняга чалавека. Мяне асабіста такая тэматыка найлепш здавальняе. А што лепш, калі іменна творы родзяць хваляванне ў чытача. І Яновіч гэта дасягнуў. Творы яго прымушаюць да рэфлексій, да прадумання, інтрыгуюць. Словам літаратура, якая настрайвае да задумённасці, застанаўлення. Нельга чытаць яе абыякава. Гэта проста немагчыма.

Сродкі, якімі карыстаецца Аўтар, скупыя, але вобразы, якія адбірае чытач, багатыя. І такімі сродкамі перадае ён настроі герояў, драматызм іх лёсу, або ставіць рэтарычнае запытанне да чытача: «як паступаць, як пакіраваць сабой, як пражыць жыццё?»

Такое пытанне ставіць сабе нямала менш ці больш амбітных маладых людзей, ды ці толькі маладых. Але трывога з-за гэтага, з-за першых крокаў у будучыню найбольш перадаецца вырастаючай моладзі.

І несумненна лічу, што і з-за гэтага творы Сакрата Яновіча пакінуць глыбокі след у памяці кожнага ўважлівага чытача.

Мне пасля яновічавай літаратуры, засталося, скромна кажучы, незабыўнае ўражанне і за гэта Аўтару шлю шчырае слова «дзякую».

**Янка Цялушэцкі**

Тадэуш Гіцгер

## НА ПЛЯНТАХ

Мастак працавіты
восень — малюе дрэвы,
крыху з зямлі красак-сокаў,
а крыху з неба.

З жоўтых пяскоў акраску,
з вады чырвань зманам
цягне, з аблокаў бляскі
і фіялет вячэрні таксама.

А потым усё ад пачатку,
і угры, і кінавар;
да сябе прыдзірчыва:
мазня карцінная.

Вецер кліча, творы нішчыць,
і лісцё губляе голле.
І стаяць дрэваў зглішчы
у абрысе голым.

А нязменны туі побач
у конусах зялёных —
эстракт цэлага года,
твор замкнёны.

Атрад, што вартуе
ў шарэнгах набожна,
покуль зіма на туі
накіне ўбор прыгожы.

Пераклаў з польскай
**І. Чыквін**

## УЖО НЯМА, КАГО ЧАКАЮ

Калі вечар шэрым змрокам
Дзень пагасіць за сабой,
Ах, як хочацца сустрэцца
Мне з дзяўчынай маладой.

Яе гібкі стан дзявочы
Ажываў мне часта ў сне.
А той позірк, тыя вочы,
Што глядзелі на мяне...

Мо здалёк мяне пазнае,
Мо ў акно сваё глядзіць...
Ды няма каго чакаю,
Хоць ідзі, хоць не ідзі.

А за вёскай, каля гаю,
Дзе стаяць бярозкі ў рад,
Як жа хораша спявае
Хор сабраўшыхся дзяўчат.

Можа там яе спаткаю,
Мо ў кругу дзяўчат сядзіць...
Не, няма каго шукаю,
Хоць глядзі, хоць не глядзі.

Сэрца білася трывожна,
Прадчувала смутак мой...
Хто, скажы, не дазваляе
Сустракацца мне з табой?

## ДНІ РАЗЛУКІ

Дзе знаходзішся дзень,
Што за мною, як цень,
Усюды крочыш, не хочаш пакінуць?
Я ў сардэчнай цішы,
На дне самым душы,
Аб табе захаваў успаміны.

Добра помню як ты,
У гэты дзень залаты,
Была ціха, маркотна, маўклівa.
Я стараўся як мог
Табе падаць да ног,
Каб была ты са мною шчаслівa.

Ды не ведаў аб тым,
Аб няшчасці сваім,
Аб апошнім спатканні з табою.
І ці ўдзень, ці ўначы,
Хоць маўчы не маўчы,
Яе воблік астаўся са мною.

Сярод мараў і сноў
Ажываеш ты зноў.
Як хацеў бы пачуць твае крокі!
І хоць вер, ці не вер,
Як даўней, так цяпер
Я чакаю цябе адзінокі.

**Леапольд Танкевіч**



## ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯЖЭННЕ

На нашай матухне Зямлі
Усяму жывому сваё месца.
А тое, што мы занялі,
З гордасцю нашай не зжывецца.

Куды нам, хоць бы, да раслін:
Жывуць жа неяк самым сонцам
І не турбуюцца зусім,
Што іх паложыць заўтра стронцый.

Мы з невідзімкамі жывем
У снежнай бездані сусвету,
А калі даль нас пазаве,
Не заікнемся нат, дзе мэта,

І скрозь мікробы, наўздагон
Сваім уяўным супастатам...
Адкрыем ім зямны закон —
Поціск рукі мікрасабрата.

У туманнасць іншую прыцэл,
Віхор зарніц над намі вые!
Зямля — касмічны карабель,
Ды мы ў ім — не рулявыя.

**Юрка Зубрыцкі**



## ПАН МАЛІНОЎСКІ

Усе любілі пана Маліноўскага, кіраўніка школы.

Аднаго разу, пасля ўрока геаграфіі, папрасіў ён нас памагчы яму напілаваць дроў. Ахвотных знайшлося вельмі многа.

Кіраўнік паглядзеў і засмяяўся.

— Дзякую вам, але работы будзе на трох.

Я і яшчэ двух былі першымі.

Пілавалі і рубалі дровы да цямна. Прышоў кіраўнік з лямпаю, нам сцякаў па плячах пот і высахла ў роце.

— Ну, як вам ідзе хлопцы?

І не чакаючы, аж хтосьці адазвецца, сказаў:

— Даволі. Ужо даволі. Дзякую вам.

— Дзякуем, пане кіраўнік. Дабранач.

— Дабранач, хлопцы.

Таго дня мы вярталіся дахаты змучанымі, але шчаслівымі.

**Эдвард Ярашэвіч**



## ВЕТРАНЫ ПЕЙЗАЖ

Вецер паклаў у барозны
марскую гладзь
глыбіня
пеніцца на бераг
за яго абразумленае жыццё
сонца праменнямі
баранує хвалі
ветразь
сее людскую насцярожанасць
каб карэнні сягнулі
да
сілы прыцяжэння
глыбіні

**Яша Бурш**

## ВЯСНОЙ

Забялелі сады. Неба ясная сінь
Усю ноч да зары зіхаціць.
А навокал узоры, дзе вокам не кінь,
Вясна пеніцца, пахам п'яніць.

І хоць ведаю я, што не доўга гарэць
Гэтым колерам дзеткам вясны.
Краса кволая, чулая ў гразь ападзець,
Успаміны пакіне ды сны.

Але хочацца больш тэй чароўнай красы,
Хоць рукамі ў запас не набраць.
Пакуль смерць не парэжа жыцця паясы,
Буду сквапна яе я шукаць.

Чулым сэрцам збяру веснацветаў агні,
І ў душы буду скарб той насіць.
Каб жыцця майго восені шэрыя дні
З веснацветам, з цяплом пражыць.

**Мікола Базылюк**





* ** *

На ўсе лады
Скуголіць
Нашая планета
У зайздрасці
Няведама куды
Імчыцца —
Ніхто
На свеце ўжо
Не слухае паэтаў
І пэўна Ромул
Непатрэбна ссаў
Ваўчыцу.

* ** *

трэ раздабыць чацвярцінку зямлі
і даўбсці скаціну
удумацца ўніз па вечнасць
да жоўтага пяску
клепсідры
якая адмерае мяне
ад маці дагэтуль
і пасадзіць мёртвае дрэва
без кораня накрыж.

**І. Чыквін**



 

Пачатак на стар. 1

## ХЛЕБ ДЛЯ САКОЛКІ

кі невялікая майстэрня, дзе выраблялі жалезныя ланцугі, драцяную сетку на агароджу і бляшаныя шкафчыкі. Асноўнымі прыладамі, якімі карысталіся нешматлікія рабочыя, былі молат і зубіла.

Зараз Сакольскае прадпрыемства мясцовай прамысловасці з'яўляецца сур'ёзным партнёрам для машына-пабудоўчых фабрык. У металаапрацоўчых яго цэхах прадукуюць цяпер самыя розныя кабіны для самаходных пад'ёмных кранаў.

Драцяную сетку для агароджы таксама і надалей выпрабляюць. Наглядаецца на яе вялікае запатрабаванне ў вёсках і ў горадзе. Але дзеля гэтага Сакольскае прадпрыемства абсталявала сабе філіял у вёсцы Вараняны — 10 кіламетраў за Саколкай.

Гнілі там пасляспулдзельчыя будынкі. На іх рамонт, на прыстасаванне для патрэб прадукцыйнага цэха, на пабудову склада і іншых будынкаў Сакольскае прадпрыемства адвяло 2,5 мільёна злотых. Цяпер у Варанянах працуе звыш 80 чалавек. Іх праца высокамеханізавана. Людзі абслугоўваюць аўтаматычныя станкі. Выпускаюць яны гэтую драцяную сетку і спецыяльнага роду спружыны для патрэб мэблевай прамысловасці. Многа тысяч людзей у Польшчы спіць на тапчанах, спружыны якіх зроблены ў Варанянах. Гадавая прадукцыя гэтага філіялу складае вартасць у 23 мільёны злотых, а тавар ідзе бы вада, бо яго мэблевыя фабрыкі проста разрываюць.

У тэкстыльнай частцы Сакольскага прадпрыемства выпускаюць розную бялізну, настольныя абрусы, рабочую вопратку і т.п. Тут прадукцыя арганізавана на аснове саматужніцтва (халупніцтва). 115 краўчых шые дома тавар для прадпрыемства. Гэта вялікая для іх выгода. Могуць спакойна заняцца хатняй гаспадаркай ды яшчэ нядрэнна зарабіць. Для патрэб тэкстыльнай прадукцыі Сакольскае прадпрыемства пабудавала спецыяльны павільён.

Так выглядаюць прадукцыйныя справы прадпрыемства, якое дае хлеб для Саколкі.

Дзейнічаюць тут партыйныя і маладзёжныя арганізацыі, наглядаецца рацыяналізатарскі рух. Адна толькі бяда, што няма ў прадпрыемстве ўласнай святліцы, няма тады дзе разгарнуць культурна-асветнай дзейнасці. У нейкай ступені культурныя зацікаўленні рабочага калектыву вырашае ўласны аўтобус, якога дырэкцыя купіла зусім разбітым, а рабочыя адрамантавалі. Дзякуючы гэтаму аўтобусу працаўнікі Сакольскага прадпрыемства пабывалі на экскурсіях у многіх гарадах краіны.

Буйнейшага прадпрыемства ў Саколцы няма. Хіба паявіцца яно, калі беластоцкі «Спомаш» закончыць у Саколцы пабудову свайго філіялу. Бяды ад таго не будзе. Сельскагаспадарчай Сакольшчыне для правільнага развіцця вельмі ж патрэбны прамысловыя прадпрыемствы.

В. Рудчык


Фрагмент мемарыяла.


Людзі часта прыязджаюць сюды, каб ушанаваць памяць ахвяр фашызму.


Ускладанне вянкоў.

Пачатак на стар. 1

## ХАТЫНСКІ НАБАТ

плекс, яны прымусілі загаварыць маўклівыя камені, мармур, метал. А народны мастак рэспублікі Сяргей Селіханаў выканаў тут скульптурныя працы. Цэнтральнае месца ў іх займае вясковы стары, які трымае на руках абмяклае цела хлопчыка. Правобразам гэтай скульптуры з'явіўся стары каваль Язэп Камінскі і яго сын Адам.

Мёртвыя як бы ўваскрэслі. Яны гавораць жывым: сцеражыце мір! На адной з пліт надпіс: «Людзі, добрыя, помніце, мы любілі жыццё і Радзіму, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць мір і спакой на зямлі, каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала!»

Ніколі не зарасце ў Хатынь народная сцежка. Хатынь зараз наведваюць не толькі савецкія людзі, але і госці з замежных краін.

Трагедыя вёскі Хатынь — толькі кропля ў моры народнага гора, якое абрушылі на беларускую зямлю нямецка-фашысцкія акупанты ў гады вайны. Трохгадовая фашысцкая акупацыя з яе крывавым рэжымам прынесла беларускаму народу нябачаныя няшчасці. Гітлераўцы і іх паслугачы расстралялі, павесілі і знішчылі ў душагубках 2219316 чалавек мірнага насельніцтва і ваеннапалонных, 377776 чалавек вывезлі на катаргу ў Германію. Акупанты спалілі і разбурылі ў Беларусі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 10000 прамысловых прадпрыемстваў, 9200 сёлаў і вёсак. У вясковай мясцовасці акупанты спалілі 1200000 жыллёвых дамоў і іншых пабудоў. Так, напрыклад, у Суражскім раёне Віцебскай вобласці з 346 вёсак уцалела толькі 5.

Трагедыя Хатыні не павінна паўтарыцца! Трывожны звон над Хатынню прыпамінае людзям, што і сёння ў свеце не спакойна.

Н. Рыдзеўскі


Фота В. Казлова

Карэспандэнцыя з Балгарыі

# КРАІНА ТУРЫЗМУ

Сталіца Балгарыі Сафія вітае нас дождж ыкам. На дварэ цямнее. Аўтобус падвозіць нас да гасцініцы «Масква». Вузенькая вуліца не дазваляе пад'ехаць аўтобусу пад уход у гасцініцу, тут яшчэ старая забудова горада. Абсталяваўшыся ў пакоях гатэля, выходжу на балкон, каб выпраставаць косці. Гляджу ўніз і бачу дзве групы людзей. Цямнеючае надвор'е не дазваляе мне разабрацца, у чым тут справа. Збягаю ўніз думаючы, што на вузенькай вуліцы здарыўся выпадак. Прабіваюся ў цэнтр адной з груп. Няма раненага ні следу пасля выпадку. Аказваецца, што гэта ніякі выпадак. Тут ля нашай гасцініцы кожны дзень збіраюцца балельшчыкі футбола і так ад раніцы да ночы дыскутуюць аб футбольных дружынах, іх удачах і няўдачах. Такія дыскутуючыя групы дазялося мне бачыць і ў іншых гарадах. Але ж не аб гэтым толькі хачу пісаць.


Фрагмент храма-помніка «Аляксандр-Неўскі».

Фота аўтара

Прыязджаючаму ў Балгарыю кідаецца ў вочы той факт, што гэтая краіна настаўлена на турызм. А ёсць тут і што наведаць і, зразумела, адпачыць у сонцы, на фоне зялёнай прыроды і ў цёплым Чорным моры.

Неяк цэнтральным помнікам у Сафіі, які знаходзіцца на розных паштовых картках, з'яўляецца «Храм-помнік «Аляксандр Неўскі». Яго пабудавана ў 1904—1912 гадах па праекту выдатнага рускага архітэктара праф. А. Н. Памеранцава ў гонар вызвалення Балгарыі ад турэцкага панавання. Пабудаваны ў візантыйскім стылі, мае крыжападобную форму, вышыню 52 м і пазалочаныя купалы. Непадалёк храма-помніка «Аляксандр Неўскі» знаходзіцца адзін з найвялікшых познерымскіх помнікаў на Балканскім паўвостраве, пабудаваная ў VI ст. царква св. Сафіі. У эпоху сярэднезякоўя св. Софія была мітрапаліцкай царквой. У апошнім дзесяцігоддзі другога Балгарскага царства згодна з яе назваaнем горад Срэдзец быў названы Сафіяй. Калі мы пры цэнтры горада, дык нельга не ўспомніць аб помніку вызваліцелям, як сімвалу вечнай удзячнасці балгарскага народа да рускіх вызваліцеляў. Пабудаваны ён у 1901 — 1907 г.г. па праекту італьянскага скульптара Арнольда Цокі. Помнік мае вышыню 12 м. і закончаны коннай статуяй Аляксандра II, а пад ёю паказаны палкаводцы, рускія салдаты, балгарскія апалчэнцы, а наперадзе ўсіх багіня перамогі.

Пра сталіцу Балгарыі Сафію можна многа пісаць, але на гэта не хапае месца. Хочацца толькі дадаць, што мае яна больш чым пяцітысячыгадовае мінулае, што гэта найбольш зялёная сталіца ў Еўропе і хіба ў свеце, што гэта курортны цэнтр, што там, дзе горад зарадзіўся, заўсёды аставалася яго асноўнае ядро, яго цэнтр.

Яшчэ раз паглядаем на маўзалей Г. Дзімітраву, кіраўніку балгарскага і міжнароднага камуністычнага руху, якому народ паставіў гэты маўзалей-помнік на працягу 6 дзён ад моманту, калі даведаўся аб яго смерці (памёр у Маскве), складаем кветкі і адпраўляемся на пабярэжжа Чорнага мора.

Паездка пачынаецца ад **Прыморска** міжнароднага маладзёжнага цэнтра. Змяшчаецца ён у прыгожым маладым дубовым лесе. Цэнтр пачаў сваё існаванне ад 1959 г., калі адпачывала тут у палатках 500 чалавек. Зараз адпачывае тут у мураваных доміках 2.200 чалавек аднаразова, а ў год — 18 тыс. чалавек.

Адпачываючыя могуць карыстаць з 2 рэстаранаў, 3 бараў, дому культуры, спартыўных аб'ектаў і т.п. Заканчэнне пабудовы цэнтра прадбачваецца на 1980 г. і тады аднаразова зможа тут



 




# УГНАЕННІ

Кленікі — гэта адна з найбольшых вёсак ва ўсходніх паветах Беласточчыны. На толькі вялікая, што ўлады для палёгкі ў адміністраванні вёскай раздзялілі яе на дзве «паў-вёскі». Выбрана двух солтысаў, і цяпер у адных сапраўдных Кленіках ёсць «Кленікі № 1» і «Кленікі № 2». Затое прэзідыум грамадскай рады нарадовай тут адзін і правіць на ўсю грамаду.

У летнюю пару журналісту няма чаго шукаць у Кленіках. Асабліва ў такое лета, як сёлеташняе — поўнае гарачай, спешлівай работы. Усе здольныя да працы людзі ў полі. Толькі перад сядзібай прэзідыума грамадскай рады можна заўсёды ўбачыць некалькі чалавек, аб нечым дыскутуючых. Ды працаўнікі прэзідыума ахвотна інфармуюць журналіста аб усім, што цікавіць яго. Заходжу тады ў прэзідыум. У прэзідыуме старшыня ГРН вядзе заўзятую дыскусію са старэйшага ўзросту селянінам. Сядаю ў зацішным кутку і запісваю.

* * *

СЕЛЯНІН **(увайшоўшы са жмутом папераў у руцэ і падаючы іх старшыні).** Што ж гэта ў чорта вы чаўпеце ізноў? Што гэта за нейкія дурныя выдумкі?

СТАРШЫНЯ **(паварочваючыся ў бок селяніна).** У чым справа?

СЕЛЬ. Як у чым справа? То ж ты не ведаеш. Ізноў прыслалі вы мне кару за тыя навозы?

СТАР. Бо ўгнаенні трэба выкупіць. Ад гэтага мы не адступім. Угнаенні мусяць быць выкуплены і рассеяны. Ад гэтага залежыць ураджайнасць палёў.

СЕЛЬ. Я маю тры пасведчанні ад дохтара. Тры пасведчанні! Дохтар казаў: да пана яны не павінны встомпіць, пан ест хоры.

СТАР. Не марудзьце, а едзьце і бярыце ўгнаенні. Калі такая бяда, дадуць вам без грошай, запішуць на скрыпт длужны.

СЕЛЬ. Што мне там скрыпт длужны! Я вясною набраў скрыптаў длужных, ды яшчэ не паразлічваўся. У мяне тры лекарскія пасведчанні, меў дзве аперацыі. Пабітая медніца і скрэнт кішак — гэта жарты! Я сеяць не магу, вось што.

СТАР. Сеўнікі будуць.

СЕЛЬ. Я не магу насіць, на воз класці.

СТАР. Зяць паможа.

СЕЛЬ. Я з зяцем увогуле не гавару.

СТАР. Сын паможа.

СЕЛЬ. Сын мае свае работы па самы вушы.

Чаму дохтар сказаў: нех се пан клуці, пан ест хоры.

СТАР. Што вы са сваім дохтарам! Дохтар гаворыць, бо яму плоцяць. **(Пасля хвіліны маўчання дабрадушным тонам).** Слухайце Ляўчук. Чаму вы такі дзіўны? Разважайце неяк толкам. Гляньце, ваш сын у горадзе, патрабуе хлеба, а мы яму даць не можам, бо ваша зямля дрэнна родзіць. Калі будзеце сеяць больш угнаенняў...

СЕЛЬ. Вы самі разважаеце без толку. Па халеры мне тыя навозы! Я не павысяваў тых, што накупіў, уся стадола завалена.

СТАР. То вельмі дрэнна, Вельмі дрэнна. Як купілі, то трэба сеяць.

СЕЛЬ. Во за багном пасеяў, то ўсё змарнавалася. Вылягла, бы пасцель.

СТАР. Бо дрэнныя ўгнаенні далі, трэба было даць...

СЕЛЬ. Даў тое, што мне выдалі, няхай не даюць дрэнных.

СТАР. Угнаенні добрыя, але трэба ведаць як і дзе сеяць.

СЕЛЬ. То вы сабе ведайце, а я дажыву да смерці і з тым, што я ведаю.

**(Пасля хвіліны маўчання)**

СЕЛЬ. То што, не здымаеце з мяне ўгнаенняў?

СТАР. Не!

СЕЛЬ. Тады пабачым. Пагаворым інакш. Я паеду ў Варшаву. Пайду да самага Гамулкі. Так не можа быць...

**(Выходзіць).**

Селянін выйшаў. Старшыня глядзіць на мяне.

— Многа клопатаў, — кажу, — з угнаеннямі цяпер маеце.

— Гэта яшчэ нічога, — адказвае старшыня. — Бывае горш. Учора, напрыклад, палову дня ўсё прэзідыум страціла на размовы з адным сержантам. Прыехаў да бацькі правесці водпуск. Калі таму прынеслі пакаранне за невыкупленыя ўгнаенні — прыбег да нас ды пачаў лаяцца. Вельмі быў здзіўлены, калі даведаўся, што існуе пастанова аб прымусовай выкупцы ўгнаенняў. Абяцаў пайсці, штопраўда, не да Гамулкі, але да І сакратара Ваяводскага камітэта.

Слухаю і думаю:

Вядома, усялякі прагрэс, у тым ліку і прагрэс у сельскай гаспадарцы, не прыходзіцца людзям лёгка і без болю. Асабліва аднак, калі цяжар прагрэсу, пераходу да новага мусяць несці людзі старыя, аджыўшыя свой век і творчы энтузіязм. А вёска наша гэта ў вялікай ступені вёска людзей старых. Але прагрэс, у тым ліку і штучныя ўгнаенні — з'яўляецца жыццёвай няўхільнасцю — законам грамадскага жыцця.

**Ул. Паўлючук**

---

**Васемнаццацігадовым хлопцам!**

# Набор у ОГП

Інфармуем усіх зацікаўленых, што вядзецца набор мужчынскай моладзі, якая не мае ніякай прафесіі, у ОГП ЗМС і ЗМВ на прадпрыемствах сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Галдапі і Алецку.

Гуфцы працы ў Галдапі і Алецку прапануюць навуку прафесіі ў наступных будаўнічых кірунках, муляр, тынкоўшчык, зброяр-бетоншчык, цясляр.

Кожны юнак будзе атрымліваць зарплату як усе працаўнікі будаўніцтва з шырока прымяняемай акардовай сістэмай платы, якая запэўняе вышэйшыя заработкі на 40 працэнтаў. Апрача таго, юнакі карыстаюцца бясплатным закватэраваннем у сучасных рабочых гатэлях, абяспечаных святліцамі, бібліятэкамі, спартыўнымі і светліцовымі прыладамі. Харчаванне (снеданне, абед і вячэра) каштуе 18 зл. у дзень, а грошы адлічваюцца з заработнай карты (у першым месяцы юнак атрымлівае крэдыт), а юнацкія святочныя мундзіры толькі часткова адплатныя.

На аснове пастановы № 55 Рады міністраў, юнакі на працягу 2 год адбываюць ваенную службу сістэмай ОТК (тэрытарыяльная абарона краіны).

Каб быць прынятым у гуфец трэба:
— мець закончаныя 18 год жыцця, але не перакрочыць 24 гады;
— Добры стан здароўя;
— Пачатковую адукацыю (не больш 8 класаў);
— здольнасць да ваеннай службы (катэгорыя А і Ц).

Ахвотным раім паспяшыцца, бо набор працягваецца толькі **да 15.X.1969 г.** Свае заяўкі кіруйце ў павятовыя праўленні ЗМС або ЗМВ. Там атрымаеце бясплатныя білеты на праезд да гуфца. Жадаем поспехаў! (ак)

---

змясціцца 10 тыс. чалавек. Трэба прызнаць, што Прыморск — гэта найбольш сонечнае пабярэжжа Чорнага мора ў Балгарыі. Сюды можна прыбываць праз турыстычныя арганізацыі або індывідуальна. Пабыўку ўпрыгожваюць мастацкія вечары, у якіх м. інш. прымаюць удзел самадзейнікі з недалёкай гары Странджа, як танец «Несцінаркі» — дзяўчаты танцуючыя на гарэўшых вуглях, або «Кукеры», танец пераважна мужчын, якія маюць высокія шапкі ўпрыгожаныя люстэркамі. У старажытнасці кожнае нешта абазначала.

Пакідаем Прыморска і едзем уздоўж пабярэжжа Чорнага мора мінаючы раскошныя курорты **Солнечнага Берагу, Дружбы і Залатых Пяскоў.** Арганізаваліся яны некалькі год таму на пустым і нявыкарыстаным марскім берагу. Тут шмат зелені, кветак, спортпляцовак, рэстаранаў і бараў.

У 1954 г. Балгарыя прыняла першую тысячу замежных турыстаў, у 1964 г. — ужо 500.000. У гэтым годзе мае іх быць больш чым 2 мільёны. «Залатое пабярэжжа» Чорнага мора — гэта сапраўды крыніца золата, сур'ёзная галіна нацыянальнай гаспадаркі Балгарыі.

**А. Карпюк**

---

**З АГЛЯДУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАСТОКУ**



**Хор ЛГКТ «Данкія» з вёскі Вайтакеме, Сейненскага павета.**
**Фота Цаф — Сянько.**

---

# Хлысты на Беласточчыне

Справа паўстання многіх рэлігійных сект і груп ва ўсходнеславянскім праваслаўі ўзбуджае зразумелае зацікаўленне сярод рэлігіязнаўцаў, сацыёлагаў, а ў пэўнай меры і гісторыкаў. Кожнага сацыёлага, кожнага рэлігіязнаўцу, які сутыкнуўся з народнай рэлігійнасцю насельніцтва паўночнаўсходняй часткі Беласточчыны здзіўляе і захапляе факт існавання тут вялікай колькасці сект і рэлігійных груп. Гэтая з'ява, як дагэтуль, у польскай літаратуры мала вядомая. Тым большае прызнанне беластоцкаму сацыёлагу, нашаму ніваўскаму сябру, рэд. Уладзіміру Паўлючуку, які ўжо некалькі год робіць доследы ў гэтай галіне раскрываючы таямніцы ўсходнеславянскага народнага праваслаўя.

У 14 нумары грамадска-культурнага двутыднёвіка **«Факты і мыслі»** ад 6—19 ліпеня 1969 г. надрукаваны артыкул Ул. Паўлючука п.з. **«Хлысты ў Польшчы».** Як гаворыць сам загаловак, аўтар публікацыі раскрывае нам таямніцы адной з найбольш цікавых з'яў у народнай рэлігійнасці славян, якой імена былі хлысты. Паўлючук сцвярджае, што хлысты не стваралі ніколі асобнай веравызнаўчай арганізацыі, але пранікалі да ўсіх інстытуцыі праваслаўнай царквы, стаючыся свайго роду дапаўненнем гэтай царквы. Інстытуцыяй, праз якую дзейнічалі хлысты, былі розназа тыпу пілігрымы, дзівакі, прапаведнікі новых аб'яўленняў, якія мелі сярод народа намнога большы аўтарытэт ад праваслаўнага духавенства.

Характэрнай рысай хлыстоў быў крайні містыцызм. Меў ён аднак асаблівы характар, праяўляўся ў экстатычных абрадах, якія заключаліся ў начных спевах і танцах даводзячых прысутных да містычных трансаў.

Аўтар артыкула «Хлысты ў Польшчы» раскрывае таксама дактрынальныя ніткі правіваўшыеся праз розныя ўхілы хлыстоў сцвярджаючы, што асновай іх была вера ў магчымасць стацца чалавеку богам. Гісторыя рэлігіі ў Расіі ведае многа такіх прыкладаў людзей, якіх народ прызнаў багамі (Распуцін, Іоан Кранштадзкі і інш.).

Каго бліжэй цікавяць справы хлыстоў у Польшчы, адсылаю да публікацыі Ул. Паўлючука ў «Фактах і мыслях». А. К.



**Пуста ў спякотны поўдзень на вясковай вуліцы.** **Фота Цаф — Р. Сянько**

---

**На старонках жнівеньскага нумара**

# ПОЛЫМЯ

Нумар багаты паэзіяй. Акрывае яго вялікая падборка вершаў вядомага беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Друкуюцца таксама абшырныя раздзелы «Энеіды» І. Катлярэўскага. Паэму аднаго з заснавальнікаў украінскай літаратуры пераклаў А. Куляшоў і цалкам будзе яна выдадзена асобнай кніжкай выдавецтвам «Беларусь». З прозы друкуецца новая аповесць Аркадзя Марціновіча «Першае каханне», з нарысаў — расказ Б. Комскага пра беларуса, які размініраваў Алжыр («Сапёр Іван Шчэрба»). У раздзеле «Навука» знаходзім даследванне Вадзіма Круталевіча пра нараджэнне і станаўленне савецкай улады ў Беларусі («Ля вытокаў») і нататкі Сцяпана Александровіча «З майго падарожжа». Асаблівую ўвагу звяртаем на апошняе. Знаходзім тут уражанні з нядаўняй пабыўкі аўтара ў нашай краіне. Расказвае ён таксама пра цікавыя знаходкі, якія адкрыў у Ягелонскай бібліятэцы і якія праліваюць новае святло на беларускую культуру і беларуска-польскія адносіны ў даўніх часах. З задавальненнем адзначаем таксама рэцэнзію на «Жнівень слоў» Алеся Барскага («Паэт з Беласточчыны»). Аўтар яе, Уладзімір Гніламёдаў, між іншым, піша: «Арыгінальныя па форме, вершы А. Барскага даюць уяўленне аб духоўным жыцці сённяшняга беларуса з Беласточчыны. Герой паэзіі А. Барскага — інтэлігент з сялян, чалавек эмацыянальны і ўражлівы. Яго «сялянскае паходжанне», — сцвярджае Ул. Гніламёдаў, — «адбілася пэўным чынам і на праблемах вершаў А. Барскага, і на падкрэсленым «антыурбанізме» паэта, і на спосабе яго паэтычнага мыслення. Лірычны герой А. Барскага і цяпер псіхалагічна дзесьці на паўдарозе паміж вёскай і горадам, хоць і даўно лічыць сябе гарадскім... Ёсць у гэтых радках шчырае, праўда, крыху сентыментальнае шкадаванне, але ёсць нешта ад «прыгожай позы», ад перажыванняў наіўнага ідэаліста... Вершы А. Барскага трэба, відаць, разглядаць у кантэксце сучаснай польскай паэзіі, з усімі яе эстэтычнымі пошукамі».

**Ювэ**




Шчаслівы палёт амерыканцаў на Месяц, паспяховы запуск аўтаматычных міжпланетных станцый «Венера — 5» і «Венера — 6», каштоўныя паказанні, якія перадалі на Зямлю амерыканскія аўтаматычныя станцыі тыпу «Марынер» пра загадачную планету Марс — гэта толькі некаторыя факты, нядаўна запісаныя чалавекам у хроніку засваення космасу.

Часта ў гутарках на «касмічныя» тэмы ўзнікаюць пытанні: навошта чалавеку космас? Чаго яны туды ляцяць? Ці не лепш гэтыя мільёны рублёў і долараў выкарыстаць на зямлі дзеля паляпшэння нашага зямнога жыцця?

Так, засваенне космасу каштуе вельмі дарага, так дарага, што толькі СССР і ЗША могуць сабе на гэта дазволіць.

Аднак яно аплоціцца! Акадэмік Г. І. Пятроў сцвярджае «Вывучэнне космасу з эканамічнага боку зусім апраўдана». І далей падае прыклады:

### У ГАЛІНЕ ТЭЛЕБАЧАННЯ

Самая магутная тэлевізійная савецкая станцыя, якую нядаўна пабудавалі ў Маскве, дазваляе на прыём тэлевізійных перадач у радыусе не многа большым за 100 км. А вось сістэма спадарожнікаў зямлі тыпу **«Арбіта»** поўнасцю забяспечвае тэлевізійнай праграмай усе куткі прасторнага Савецкага Саюза, а праз каналы «Інтэрвідзенія» і «Еўравізіі» распаўсюджваецца на ўсю Еўропу. Практычнае выкарыстанне такой сістэмы шмат таннейшае ад пабудовы густой сеткі тэлевізійных перадатчыкаў.

Ад сябе прыпомнім, што дзякуючы касмічнаму спадарожніку Зямлі, маглі мы, для прыкладу, захапляцца спартыўнай алімпіядай, якая адбывалася ў Мексіцы.

### У ГАЛІНЕ РЫБАЛОЎЛІ І СУДНАПЛАВАННЯ

Навігацыйныя спадарожнікі Зямлі дазваляюць акрэсліць месцазнаходжанне судна на акіяне з дакладнасцю да 100 метраў. Нармальныя спосабы марской навігацыі дапускаюць памылкі на звыш кіламетра. Гэта мае выключна важнае значэнне для марской рыбалоўлі і ўвогуле для суднаплавання. Рыбакі з дапамогай сігналаў з навігацыйнага спадарожніка Зямлі ў кожную пару дня і ночы могуць вярнуцца дакладна ў тое самае месца, дзе папярэднім разам найбольш было рыбы.

### У ГАЛІНЕ МЕТЭАРАЛОГІІ

Вядома, як важнае значэнне для гаспадаркі маюць дакладнае, беспамылковае прадказанне пагоды. Пачынаючы ад 1960 года ў СССР і ЗША было выведзена на арбіту некалькі метэаралагічных спадарожнікаў Зямлі. Яны ўсё яшчэ працуюць. Рэгулярна перадаюць на Зямлю звесткі пра згуртаванні горных слаёў воблакаў, пра стан ільдоў на Зямлі, пра ўраганы. Гэтыя весткі маюць вельмі важнае значэнне пры апрацоўцы прагноз надвор'я. Хуткі абмен інфармацыі між СССР і ЗША, якую яны атрымоўваюць ад сваіх метэаралагічных спадарожнікаў, ужо зараз дазваляе даволі дакладна прадбачыць пагоду на 5 дзён наперад. Эканамісты падлічылі, што магчымасць прадбачвання пагоды толькі на гэтыя 5 дзён стварае ўмовы, каб у сельскай гаспадарцы заашчадзіць да 6 мільярдаў долараў у год. Такую суму грошай якраз у год адводзяць амерыканцы на сваю праграму вывучэння космасу.

Далейшае дасканаленне тэхнікі назірання з космасу за з'явамі прыроды, якія маюць непасрэдны ўплыў на пагоду, дазволіць вызначаць яе змены не толькі на 5, а на значна даўжэйшы перыяд часу наперад. Ды не толькі. Ёсць магчымасць прадбачваць змены нават зямнога клімату. Клімат зямлі залежыць ад колькасці сонечнай энергіі, якая даходзіць да яе паверхні, і ад колькасці энергіі, якую наша Зямля высылае пастаянна ў міжпланетны прастор. Зямля атулена «коўдрай» атмасферы. Колькасць энергіі, якая ўцякае ў кожную секунду ад нас, залежыць ад хімічнага складу верхніх слаёў гэтай атмасферы. Каб вывучыць свойствы гэтага хімічнага складу, каб ведаць, ад чаго залежаць змены ў выпраменьванні зямной энергіі, неабходна «паназіраць» за атмасферай звонку, з космасу. Гэта ўжо праводзіцца. Калі тайны гэтых з'яў будуць выяўлены вучонымі, тады змогуць яны прадбачыць змены клімату на цэлыя гады наперад. Можна будзе загадзя акрэсліць, якая наступіць зіма, ці летам спадзявацца спякоты, ці праліўных дажджоў. Хлебаробы змогуць тады весці праграміраваную гаспадарку, загадзя прадбачыць сродкі, каб пазбегнуць затрат. Ашчаднасці ад гэтага поўнасцю апраўдаюць вялікія кошты касмічных даследванняў.

Гэта не ўсё. Ужо зараз ёсць магчымасць шматзначнага ацяплення клімату Зямлі. Дзеля гэтага трэба вакол нашай планеты рассеяць адпаведны слой пылу. Такі слой быў бы з Зямлі не заўважаемы для вока. Аднак стаўся б ён пасткай для энергіі, якую Зямля так шчодра высылае ў космас. Гэтая энергія, а дакладней — нейкая яе частка — вярталася б назад на Зямлю і дадаткова абагравала б нашу планету. На Зямлі сталася б шмат цяплей. Праект з тэхнічнага боку зусім рэальны, толькі вучоныя яшчэ не згодны ў тым, ці варта яго ажыццяўляць, ці не адаб'ецца гэта дрэнна на зямной прыродзе.

### У ГАЛІНЕ НАВУКІ

Вучоныя, якія даследваюць свойствы частак атамнага ядра, вымушаны будаваць магутныя ўстаноўкі, т.зв. паскаральнікі. Яны так дарагія і патрабуюць для працы так высокіх затрат энергіі, што зараз ледзь некалькі такіх установак працуе ў свеце. (Між іншым у Дубнай пад Масквой). Працей вопыты перанесці ў міжпланетны прастор, дзе гэтыя часткі атамнага ядра без ніякіх установак ляцяць з так высокай энергіяй, якой ніколі не дабіцца на зямлі. Доследы гэтага роду праводзяцца ўжо пры дапамозе спадарожнікаў Зямлі тыпу «Пратон».

### У ГАЛІНЕ ТЭХНАЛОГІІ

Заземскі, міжпланетны прастор — гэта пустэча. Няма там ніякіх газаў, ніякага паветра. Значыць — гэта дасканалы вакуум (пружня). Пры сучаснай тэхналогіі такія ўмовы вельмі часта патрэбны ў розных галінах вытворчасці, каб атрымаць самую высокую дакладнасць хімічнай рэакцыі ці іншых працэсаў. На зямлі дасканалай пружні асягнуць зусім не можна, а нават каб дабіцца пружні не вельмі дасканалай трэба затраціць многа энергіі. Працей падобныя працэсы, якія патрабуюць гэтай пружні, праводзіць у космасе. У недалёкай будучыні акажацца гэта зусім рэальнай справай.

Гэта толькі некаторыя практычныя дабрадзействы, якія дае нам космас. Значыць, патрэбны ён чалавеку дзеля таго, каб на зямлі лепш жылося. **В. Р.**

## ПЕКАР ПРЫРОДА

### ЖУРАВІНЫ

Гэтыя ягады можна збіраць і ўжываць на працягу многіх месяцаў (усю восень да снегу і вясной). Ягады журавін утрымліваюць у сабе шмат арганічных кіслот, цукру, пікцінызыя і фарбавальныя рэчывы, гліказід, вакцынін і вітамін С. Ужываюць іх для прыгатавання журавіннага экстракта — сродку для наталення смагі, пры ліхаманкавых захворваннях.

У народнай медыцыне ягады журавін ўжываюць пры павышаным крывяным ціску, задышцы, паніжанай кіслотнасці страўніка.



## КУЛІНАРЫЯ

### Яблыкі ў цесце

Яблыкі абабраць, дастаць сарцавіну, нарэзаць кружочкамі таўшчынёй 0,5 см. і пасыпаць цукрам.

Для прыгатавання цеста бялкі яек аддзяліць ад жаўткоў, пакласці цукар, соль, смятану муку. Усё старанна размяшаць і развесці малаком, а бялкі збіць у густую пену і акуратна ўліць у цеста, памешваючы знізу, уверх, да поўнага злучэння (цеста павінна быць як густая смятана).

Яблыкі ўзяць відэльцам і памачыць у цеста, апусціць у разагрэты тлушч (топленае масла), смажыць да ўтварэння залацістай скарынкі, пры падачы яблыкі пасыпаць цукровай пудрай або цукровым пяском.

На 4 порцыі: яблыкаў 4 шт., яйка 2 шт., мукі пшанічнай 4 ст. лыжкі, малака 1/3 шклянкі, смятаны 1 ст. лыжка, цукру 1 ст. лыжка, масла топленага 2 ст. лыжкі, цукровай пудры 1 ст. лыжка.






**На канферэнцыі прадстаўнікоў усіх рэлігій Савецкага Саюза з удзелам рэлігіёзных дзеячаў з 44 краін, якая адбылася нядаўна ў Загорску, абмяркоўваліся праблемы развіцця супрацоўніцтва прадстаўнікоў усіх рэлігій у барацьбе за мір. На канферэнцыі была прынята «Адозва да веруючых усяго свету, да ўсіх людзей добрай волі».**




### ПАД НЕБАМ ФРАНЦЫІ

Бразнулі дзверцы, завурчаў матор, і хутка знікла з вачэй апошняя машына. У людзей, што засталіся за калючым дротам, разрываліся сэрцы ад пякучага болю за тых, хто цяпер, у гэтыя хвіліны, задыхаўся ў душагубках. А колькі ім самім адпушчана дзён або гадзін жыцця? Яны не ведалі...

Праз некалькі гадзін, у той жа дзень, 13 лютага 1944 года, з канцлагера па вуліцы Шырокай адпраўлялі чарговую вялікую партыю зняволеных на нямецкую катаргу.

Не паведамляла пра гэта радыё, не пісалі газеты, але насцярожанае насельніцтва акупаванага Мінска хутка даведалася: вядуць! Іх гналі па вуліцах горада за бетонны мост, на таварную станцыю, а побач з калонай беглі людзі, пільна ўглядаючыся ў твары нявольнікаў. Каго гоняць? Ці няма там блізкіх і родных, даўно аплаканых?

Там, на станцыі, у час пагрузкі, у вялікай сумятні, да яе падбегла нейкая дзяўчына і шапнула: «Сядай бліжэй да дзвярэй, за Негарэлым будзе пабег».

Стукаюць на стыках вагонныя колы. Стукаюць нібы ў самае сэрца. Людміла пільна ўслухоўваецца, чакае Негарэлага. І толькі потым яна даведаецца, што патрыёты на супынку ў Негарэлым і сапраўды адчынілі некалькі вагонаў. Частка нявольнікаў уцякла, уцяклі тыя, хто не разгубіўся, выскачыў. А тых, хто астаўся ў вагонах, фашысты перастралялі. Вагон, дзе была Людміла, перад адпраўкай пераставілі ў самы канец і яго не паспелі адчыніць.

Дзён праз дзесяць эшалон апынуўся ў Бельгіі. На кожнай станцыі збіраліся людзі. Дарослыя і дзеці махалі нявольнікам рукамі, кідалі ім хлеб, кавалкі каўбасы.

Гэта была падтрымка, гэта была салідарнасць!

На мяжы Францыі з Бельгіяй цягнік спыніўся. Нявольнікаў выгрузілі і павялі пешшу. Людміла Міхайлаўна знясілела і не магла ісці. Смаленскія партызанкі Вера і сёстры Сакаловы падхапілі яе пад рукі, падбадзёрвалі, як маглі. Бо тых, хто аслабеў, немцы прыстрэльвалі на месцы.

А потым іх прывезлі ў горад Сан-Поль на поўначы Францыі і пагналі ў канцлагер для рускіх — Кроазет. І пачалося звычайнае лагернае жыццё. Кармілі хлебам з апілкамі, нейкай бурдой замест супу. Выводзілі працаваць на бераг Ла-Манша, дзе ад частых бамбёжак былі разбураны бетаніраваныя ўмацаванні.

...Ксеня Сакалова трохі ведала французскую мову. О, як гэта было дарэчы! Аднойчы ў час работы да жанчын непрыкметна падыйшоў нейкі француз і сказаў, што дапаможа ўцячы і схавае чатырох чалавек. Паведаміў ім пароль і адрас і тут жа дамовіўся, дзе і ў якім месцы ён перарэжа калючы дрот.

Чатыры жанчыны паволі выходзяць з барака. Цемра ахоўвае іх. Дзесьці побач чуваць крокі вартаўніка. Вось ён спыніўся на хвіліну, засвяціў ліхтарык ці запальнічку і пайшоў уздоўж агарожы. Хутчэй, хутчэй дапаўзці да агарожы! Дзе ж ён, дзе ж той перарэзаны дрот? Нарэшце! Акрываўленымі рукамі намацалі дзірку, рассунулі дрот і папаўзлі. Доўгія косы Людмілы Кашычкінай зачапіліся і не пускаюць туды, дзе сяброўкі, дзе воля. Рывок з усяе сілы — і пасма валасоў астаецца на дроце.

Глыбокая яма ад бомбы хавае бяглянак. Густы, як малако туман укрывае іх і адначасова замінае разгледзець наваколле. Дык што — сядзець і чакаць аўтаматнай чаргі? Хутчэй, хутчэй адыйсці ад гэтага праклятага лагера! Баючыся, каб не згубіцца, жанчыны моцна трымаюцца за рукі. Падаюць у ямы ад бомб, выбіраюцца з іх па слізкай зямлі і бягуць, як ім здаецца, наперад, далей ад страшэнных мясцін, дзе гудуць заведзеныя маторы, гатовыя па першым знаку трывогі рынуцца за ўцекачамі. Часам успыхваюць водсветы пражэктараў, і зноў усё патанае ў змроку сакавіцкай ночы. Слых і змрок напружаны да болю.

І раптам рука дакранаецца да калючага дроту. Лагер! Так, лагер побач. Лагер — пасля некалькіх гадзін такога цяжкога шляху!

Цяжка дыхаць, падкошваюцца ногі. Сілы не хапае ісці. І ўсё ж жанчыны зноў паўзуць, аж пакуль не пасвятлеў усход, пакуль не вырысаваліся ў тумане дрэвы і нейкія вялікія будынкі.

Доўга-доўга давялося яшчэ ісці, сустракаючы на шляху шмат перашкод, трывог...

Спагадлівыя сялянкі кармілі іх, тлумачылі, як прабрацца да шахцёрскага гарадка Бруа.

Недалёка ад доўгачаканага Бруа сустрэлася на дарозе жанчына з дзіцячай каляскай. На ламанай рускай мове яна спытала: «Вы савецкія?» Хоць пра гэта можна было не пытаць, з першага позірку можна было здагадацца, што яны нетутэйшыя.

— Пойдзем, пойдзем хутчэй! Тут недалёка. Вас чакаюць!

Яна трымала Людмілу за руку і гаварыла, блытаючы польскую, рускую і французскую мовы. Падыйшоўшы да невялікага доміка, крыкнула ў прачыненае акно:

— Юзэф, глянь, вось яны, рускія! Добра, што я іх знайшла. Яшчэ трохі — і папаліся б! Ішлі на забароненую зону!

Вочы жанчыны гарэлі яркім бляскам. Колькі ў іх было радасці і спагады!

— Юзэф, Мэры, прымайце іх!

# ТРЫБУНА чытачоў

## ГЭТА БЫЛІ ДОБРЫЯ КАНІКУЛЫ

Нялагернае лета ў бельскім гарцэрскім гуфцы ахапіла ў гэтым годзе 5214 дзяцей у 383 групах. Узніклі яны ў найдалейшых кутках павета і аб'ядноўвалі не толькі гарцэрскую моладзь. Групы самі арганізавалі сабе канікулы і выканалі шэраг карысных прац. Ванда Станкевіч з Сабуткі арганізавала для наймалодшых малое прадшколле, дапамагаючы гэтым самым бацькам пільнаваць дзяцей. Цацкі застэмп зрабіў уласнаручна. Часта арганізаваны былі грамадскія працы ў рамах «Акцыі Нябачнай Рукі»; апека над старымі, рамонты платоў, парадкаванне панадворкаў. Напрыклад, застэмп «Чырвоных спадніц» Ядзі Мяжвінскай з Мяжвіна Малога арганізаваў частыя экскурсіі ў лес, якія былі спалучаны са збіраннем лясных пладоў і назіраннем жыцця прыроды. Валя Грыгарук з вёскі Алекшы са сваім застэмпам памагала старым пры жнівах. Падобных прыкладаў шмат. Гульні, спартыўныя спаборніцтвы, кастры, конкурсы рысавання — гэта наступныя пункты праграмы нялагернага лета. Кожная група мела свайго апекуна, які памагаў у працы.

Канікулы кончыліся. Засталіся ўспаміны. І яшчэ: умеласць арганізавання сабе вольнага часу і навык грамадскай прыдатнасці.

**Данута Гаўза**
**Бельск**

## КАСЫ ЛЮДЗЕЙ ПРАЦЫ

Усеагульная ашчадная каса (ПКО) з мэтай аблягчыць людзям працы ашчаджанне на кніжках ПКО і рабіць усялякія разлікі ўсё разбудоўвае сетку прызаводскіх агенцтваў ПКО.

Зараз у прадпрыемствах, установах, спулдзельнях, школах і г.д. на тэрыторыі нашага ваяводства існуе 368 агенцтваў ПКО.

Сёння работнікі прадпрыемстваў, устаноў і г.д., дзе існуюць агенцтвы ПКО, могуць без затраты часу, напрыклад у час перапынку на снеданне, зрабіць узносы ці ўзяць грошы з ашчадных кніжак, заплаціць за электраэнергію, газ, тэлефон, раты ОРС, унесці кватэрную плату, зрабіць падпіску часопісаў і кніжак і г.д.

Трэба падкрэсліць, што пры аплочванні ўсіх успомненых разлікаў у форме адпісаў з ашчадных кніжачак маніпуляцыйных плат не бярэцца.

Аб вялікіх паслугах агенцтваў ПКО сведчыць колькасць аперацый зробленых агенцтвамі. Напрыклад, на працягу 7 месяцаў г.г. у сувязі з ашчаднымі ўзносамі і платамі зроблена 315.296 аперацый, адкрыта 12.570 ашчадных кніжачак, а агульная колькасць грашовых разлікаў людзей зробленых у касах ПКО і агенцтвах у I паўгоддзі г.г. асягнула 91.067 пазіцый. (лв)

## МАЛАДЫЯ МУЗЫКАНТЫ

Летам гэтага года ў прыгожым сасновым лесе над Нарвай (Самулкі, Бельскі павет) пабудавалі свае палаткі маладыя гарцэрскія музыканты. Былі тут члены гарцэрскага аркестра з Бельска, Сухаволі і Беластока, а таксама вакальны калектыў дзяўчат з Засаднічай сельгасшколы з Бельска і калектыў флейтаў «Падляшскія жачкі». Разам 78 гарцэрак і гарцэраў. Яны падрыхтавалі цікавую праграму. Аб узроўні маладых музыкантаў мелі магчымасць пераканацца жыхары Бельска і акалічных вёсках, слухаючы шмат канцэртаў.

**Тэкст і фота В. Фалькоўскі**






**Дарагое Сэрцайка!**

Не магу сама вырашыць: верыць яму ці не? А вось пастараюся дакладней усё табе напісаць. У мяне быў хлапец Ваня, які, як у нас гавораць, хадзіў са мной год часу. Прыязджаў часта да мяне да бацькоў, абяцаў, што будзе жаніцца, нават пазнаёміў мяне са сваёй сястрой (былі мы ў іх у гасцях). Ужо тры месяцы Ваня не паказаўся ў маёй хаце, мала таго, нават не прыйшоў на сустрэчу, якую мне лістоўна вызначыў. Ад таго часу і след па ім прастыў. З тае прычыны мела я нямала непрыемнасцей ад людзей (вядома, як на вёсцы).

Не так даўно я пазнаёмілася з Колем і мы пастанавілі ўзяць шлюб у найбліжэйшым часе. Не ведаю, ці даведаўся аб гэтым Ваня, ці не, аднак пару дзён таму назад, у нядзелю, прыслаў свайго калегу, каб той нас умовіў на сустрэчу. Я згадзілася. Ваня пачаў размову са мной і сказаў, што ізноў будзе са мною сустракацца. Я амаль нічога не гаварыла, і так мы развіталіся. Ён сказаў, каб я надумалася. Не ведаю цяпер, што рабіць. Мо адлажыць тэрмін шлюбу і пачакаць на Ваню, пабачыць, ці ён гаварыў праўду ці не. (Праўда, Ваня меў і мае многа дзяўчат, да якіх ездзіць як да нарачоных). Парай. **Ніна**

**Ніна!** На маю думку Вані нельга верыць. Ён жа ж тры месяцы не цікавіўся табою, дык цяжка паверыць, што раптам прыпомніў сваю каханую і прыехаў, каб гаварыць прыгожыя словы. Думаю, што выбрала ты Колю не для таго, каб вярнуць Ваню. Тады і выходзь за Колю. Калі я памыляюся, дык пачакай на таго трэцята. **Сэрцайка**

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХАРУГВЯ ЗГП БУДЗЕ МЕЦЬ СВАЙГО ГЕРОЯ

Апошнім часам адбылося пасяджэнне Савета беластоцкай харугві ЗГП, на якім прынята пастанову даць імя харугві. Яно будзе імем усёй беластоцкай гарцэрскай арганізацыі. Імя для харугві будуць шукаць усе беластоцкія гарцэры. Героем харугві можа быць асоба або гістарычны факт, які прысвячаць будзе ўсёй арганізацыі Беласточчыны. Гарцэры ў дружынах да 15 кастрычніка наладзяць шмат кантактаў з партыйнымі дзеячамі, гісторыкамі, афіцэрамі ВП і МО і правядуць з імі інтэрв'ю. Да канца снежня адбудуцца ў дружынах плебісцыты на прапанаваныя гарцэрамі праекты імя. Камісіі дружын выбяруць тры паўтараючыеся прапановы і перашлюць іх у камэнды гуфцаў. Камісія гуфца выбярэ з найчасцей паўтараючыхся герояў аднаго і перашле свой праект у камэнду харугві. Са ўсіх прапаноў, прысланых гуфцамі, камісія харугві выбярэ пяць. Затым на спецыяльных плебісцытных картках усе гарцэры будуць выбіраць героя, які будзе іх героем. Акцыя павінна закончыцца да мая 1970 года. Але не будзе канца працы. Летняя акцыя Беластоцкай харугві будзе праходзіць пад лозунгам «Следам героя харугві». Адбудзецца шэраг рэйдаў, злётаў і біваказ. Ваяводскі злёт адбудзецца ў палове ліпеня ў лагеры таго гуфца, які будзе вылясаваны да ўзнагароды за плебісцыт. Тут таксама адбудзецца лясаванне ўзнагарод для 5 інструктараў, 3 дружын і 2 цэнтраў, якія бралі ўдзел у плебісцыце. Урачыстасць прысваення імя прадбачваецца на 1971 год.

**В. Фалькоўскі**
**Бельск**

## У БЕЛАСТОЦКІМ ПАРКУ



**Гульня з лебедзем.** **Фота: В. Касакоўскі**

Юзэф, мужчына год сарака, працягнуў бяглянкам руку. Усё было як у сне...

Падышоў і павітаўся шыракатвары чалавек з пышнай русай шавялюрай — Франц, затым падышлі Владэк, брунет у крагах, з усмешкай дзіцяці, і Альберт, пажылы, з рукамі шахцёра, вельмі шырокімі ў кісці. І пакуль усе, радасныя, усхваляваныя сустрэчай, моцна паціскалі рукі, усаджвалі, распытвалі, як дабіраліся па забароненай зоне, жонка Юзэфа Мэры выкладала на стол хлеб, батоны і маргарын.

— Ха-ха! — смяяўся Юзэф. — Яны ж рускія, свента Марыя, усюды пройдуць!

А жонка яго жаласліва наракала:

— Паглядзі, Юзэф, яны ж нічога не ядуць!

У пакой заходзілі новыя людзі і адразу ж з парога ўсміхаліся, нібы старыя знаёмыя, моцна паціскалі жанчынам рукі, імкнуліся сесці побач, завесці размову.

Было шумна, нават не пачулі, як увайшлі чатыры ўзброеныя аўтаматамі немцы. Бяглянкі ледзь не абамлелі ад страху. Але гэта былі свае...

Яны былі сярод сваіх, сярод сяброўінтэрнацыяналістаў. За плячыма засталіся дванаццаць сутак цяжкага шляху па невядомых мясцінах, на чужой зямлі, акупаванай немцамі.

Цяпер яны ў надзейным месцы. У двары ля агарожы складзена сена, у сцірце непрыкметная адтуліна, а там, у сярэдзіне, чатырохярусны ложак. Іх кармілі, знайшлі ім вопратку, афармілі дакументы, звязаліся з батальёнам рускіх партызан у Францыі. Камандзір атрада Марк Слабадзінскі прыслаў на гэту явачную кватэру французскіх камуністаў свайго чалавека. І вось тры смаленскія партызанкі і мінскі ўрач Людміла Кашычкіна, нібы рознарабочыя нямецкага аэрадрома Мошабрытон, перабіраюцца да савецкіх партызан у паселішчы Білемантэ. У кожнай з іх французскі пашпарт, у якім указана нацыянальнасць — полька.

І пачалося для жанчын новае жыццё. Яны апрануліся ў форму макі. Толькі ідучы на сувязь з французскімі падпольшчыкамі, пераапранаюцца ў цывільнае. Ідуць на сувязь па 20 кіламетраў, ды на высокіх абцасіках: інакш нельга, усе так ходзяць, нічога не зробіш.

І вось чарговы паход у Барля на сувязь з шахцёрам-камуністам. Ідуць Людміла і Ксеня. У кішэні ў Людмілы маленькі партсігар. Акуратна, радочкам, складзены цыгарэты. З выгляду ўсе яны аднолькавыя. І толькі яна, Людміла, ведае, у якой з іх захаваны зашыфраваныя звесткі. У выпадку неабходнасці яна возьме яе, чыркане запальнічкаю і выкурыць.

Усё ідзе добра. Вось і ўмоўленае месца. Жонка, дачка і сын шахцёра ветліва сустракаюць жанчын. Глыбокай ноччу ім нават пашчасціць, укрыўшыся з галавой пуховай коўдрай, пачуць родны голас Масквы. Праўда, другую палову ночы яны правядуць без сну ў нейкім хлеўчуку, які выратуе іх ад аблавы.

Развіднела. Сонца ўзышло, скончыўся камендантскі час, цяпер хутчэй у дарогу.

Гадзіны праз дзве насустрач паказаўся нямецкі батальён. Як напятая струна, напружаны нервы. З незалежным выглядам, не збаўляючы кроку, ідуць сувязныя. Вось-вось, здаецца, абмінуць немцаў, як раптам афіцэр загадвае спыніцца. Вобыск!

Людміла вымае цыгарэту, лёгенька паціраe яе кончыкамі пальцаў і працягвае партсігар афіцэру: маўляў, закурывай. Той асцерагаецца: «Атрута!» І загадвае: закуры сама. Вось гэтую!

— Што вы, што вы, пан афіцэр!

Людміла вымае тую цыгарэту, што паказвае пальцам афіцэр, і зацягваецца на ўсе грудзі. Аўсвайсы ў поўным парадку, не выклікаюць сумнення. Жанчыны ідуць далей.

Гэты маленькі партсігар, як напамінак пра гэтыя поўныя небяспекі дні, і цяпер захоўваецца ў Людмілы Міхайлаўны. І кожны раз яна не можа без хвалявання ўзяць яго ў рукі.

А потым былі баі. Полк рускіх партызан вызваляў французскую тэрыторыю ад карычневай чумы, біўся за вызваленне вязняў канцлагера.

Нарэшце настаў дзень Перамогі. Полк вяртаўся на Радзіму. Праводзіць савецкіх людзей прыйшоў увесь горад Нім. Песні, абдымкі, пацалункі, сувеніры. Як дарагую рэліквію захоўвае Людміла Міхайлаўна макет магілы Невядомага салдата ў Парыжы, падараваны артысткай Люсі Лемерсье.

(Працяг будзе)

**«НІВА» — ВАШ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ. ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Ubranie prawie nowe" (polski), 9—10. „Noc przedślubna" (polski), 11—12. „Pamiętnik pani Hanki" (polski), 13—14.

**Нараўка**

„Kierunek Berlin" (polski), 10—14.

**Нарва**

„Milcząca gwiazda" (polski), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wycieczka w nieznane" (polski), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Żyrafa w oknie" (franc.), „Za frontem" (radz.), 9—12.

**Міхалова**

„Sprawa Barnaby Kossa" (czeski), 9—10. „Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 11—12. „Koniec agenta W-4C" (czeski), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Biały niedźwiedź" (polski), 9—10. „Walet pikowy" (polski), 11—12. „Obok prawdy" (polski), 13—14.

**Янаў**

„Miejsce na ziemi" (polski), 13—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Popioły" (polski), 9—12. „Ostatnie dni" (polski), 13—14.

**Мельнік**

„Kapryśne lato" (czeski), 9—10. „Przygoda Wernera Holta" (NRF), 11—12. „Zabawa w masakrę" (franc.), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Barwy walki" (polski), 13—14.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

